# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51-52 (1295-1296) ГОД XXV БЕЛАСТОК 21-28 СНЕЖНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.

## БЕЛЬСКАЯ МАЛАЧАРНЯ

Малачарня ў Бельску дастаўляе свае прадукты не толькі ў Бельск, але таксама ў Беласток і нават на Шлёнск. Пабудавана яна была ў 1956 годзе. Яе вытворчая здольнасць была 45 тысяч літраў малака ў суткі. У 1960 годзе пры малачарні пабудавалі парашкоўню малака, якая штодзённа перапрацоўвала 40 тысяч літраў малака. Пазней было ўжо гэтага недастаткова. Неабходна было пабудаваць значна большую і па апошняму слову тэхнікі. Будавалі яе італьянцы. У 1974 годзе парашкоўня малака тыпу „Г“ была перададзена ў эксплуатацыю. Яе вытворчая моц акрэслівалася лікам 350 тысяч літраў малака ў суткі. Сюды адтлушчанае малако прывозяць і з іншых малачарняў, і не толькі з Беласточчыны, але таксама з Сядлецкага і Астралэнцкага ваяводстваў. Тут ператвараецца яно ў малочны парашок, які выкарыстоўваецца ў прадуктавай, а найбольш у кандытарскай прамысловасці.

У бягучым годзе на працягу дзесяці месяцаў выпрадукавана 7 200 тон малочнага парашку высокай якасці. З гэтага 4400 тон — на экспарт у Бельгію, ФРГ, Галандыю, Грэцыю, Венгрыю, Чэхаславакію. Заказы на гэты парашок паступаюць таксама з Мексікі, Пакістана, Кубы, Японіі і інш. Запатрабаванне на малочны парашок вялікае, і таму парашкоўня працуе на тры змены.

(Працяг на стар. 4)



*Намеснік дырэктара Вера Паўлючук.*

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

З вялікай нецярплівасцю чакаў я гэтага першага снежаньскага панядзелку, на які быў назначаны VII Пленум Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Да адказу надакучыла нам ужо назіраць за ўсім гэтым, што ад пачатку верасня чаўплося ў нашай краіне! Не было дня, каб не паступалі паведамленні аб нейкіх забастоўках і ўсё новых патрабаваннях. Як заразная хвароба, пераносілася гэта з аднаго ў другі куток краіны.

— Скажы, Максім, — аднойчы звярнулася да мяне мая Палашка, — калі гэтыя нашы міністры маюць час, каб толкам падумаць аб кіраванні гаспадаркай? Яны ж, быццам хлопцы ад пасылак, ганяюцца па Польшчы ды падпісваюць усё новыя і новыя пагадненні.

Сапраўды! Дайшло ўжо да таго, што ніхто не хоча гутарыць з прадстаўнікамі ўлады ніжэйшага ўзроўню, як намеснік старшыні Рады Міністраў, а нават некаторыя патрабуюць прысутнасці I сакратара Цэнтральнага Камітэта ПАРП!

Людзі добрыя, ці ў нас ужо ўсе забылі аб існаванні права, устаноўленага для рэгуліроўкі суадносін паміж дзяржавай і яе грамадзянамі, ды паміж паасобнымі жыхарамі краіны?

На гэтую тэму давялося мне нядаўна паспрачацца з адным маім аднавяскоўцам. Яго ў нас называюць Сяргеем. Чалавек ён вопытны. Гэта праўда. Выгадаваў дзесяцёра дзяцей. За гэта яго жонка яшчэ ў 1941 годзе была ўзнагароджана ордэнам **„Маці-гераіня“**. Тады жылося ім цяжка. Сям'я вялікая, зямлі мала. Падмацаваўся ён пасля вайны, набраўшы з сельскагаспадарчай рэформы столькі поля, колькі хацеў. Развёў жывёлагадоўлю, пачаў трымаць па двое коней, ды ўвогуле стаў адным з багацейшых гаспадароў у вёсцы. Яго шматлікая сям'я раз'ехалася амаль па цэлай краіне і цяпер, калі хто хоча даведацца, што дзеецца, напрыклад, у Гданьску або ў Катавіцах, у Любліне, Познані, Жэшаве, не гаворачы ўжо пра Бела-

### З НАДЗЕЯЙ

сток — найперш бяжыць да Сяргея. Сям'я яго трымаецца салідарна. Гэта праўда. А я вось з ім неяк не магу дайсці да ладу. І на гэты раз ён мне кажа:

— Не ерундзі ты, Максім, з гэтым правам! Хто першы ламаў твае права? Ад каго ішоў прыклад?

І тут ён прыгадаў мне вядомую пагаворку, што рыба псуецца ад галавы.

— Два сынкі, — гаварыў, — адзін пад апекай прэм'ер-міністра, а другі яшчэ болей аўтарытэтнага пратэктара — што тварылі? Як жылі?! Нават царам такое ў галаву не прыходзіла! І на чый кошт?

Ён спыніў на хвіліну свае вывады, паглядзеў на мяне, каб пераканацца, ці дастаткова прыбіў мяне сваімі вывадамі, ці адчуваю я сябе, як Хрыстос на крыжы, а я тады і сапраўды падумаў: што ж мне, мужыку вясковаму, да ўсяго гэтага? Ці калі хто-колеч пытаў мяне, што я аб гэтым мяркую? Ці мне ўсё гэтае падабаецца? Ці ў галаву магло прыйсці, што такое ў нас творыцца?

— Гаварыў мне Ваня, — прадаўжаў Сяргей, — што іх будаўнічую брыгаду паслалі ў вёску Студзянкі. Гэта за Васільковам...

Тут неабходна паясніць, што гэты Ваня з'яўляецца Сяргеевым сынам і жыве ў Беластоку, ды працуе ў будаўнічай спулдзельні, якая памяшчаецца на вул. Гетманскай.

— Некалькі кіламетраў за гэтымі Студзянкамі, — расказваў мне Сяргей, — узнікла на працягу апошніх гадоў зусім новая своеасаблівая вёска, якая насяляецца выключна ў свабодныя ў горадзе дні, вёска дырэктарская. Поўнасцю электрыфікаваная, з вадой ды іншымі выгодамі. А дамы якія там, каб ты бачыў! Напрыклад, на высокім каменна-бетонным фундаменце стаіць хатка з кругленькіх бярвенняў з елкі — падобная да тых, якія паказвалі ў фільме „Сібір“. Толькі больш пышлівая, бярвенні беленькія, роўненькія, спецыяльна падабраныя... Іншыя дамы адмыслова пабудаваны з цэглы...

Я слухаў усё гэта, а ў галаву лезлі ўспаміны пра тое, як мне самому давodзілася аббіваць парогі ў начальніка гміны і ў старшыні ГСу за фурай звычайных сасновых дошак, за паўтоны цэменту, за дазволам на зрэзанне пяці соснаў ва ўласным лесе...

(Працяг на стар. 4)

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

### ВІДАВА

Што нам вядома пра нашых мяшчан у сялянстве, ці як каму-небудзь да спадобы — сялян у мяшчанстве? Праўду сказаўшы — надта ж мала, амаль нічога. А яны ў мінулым тутэйшай зямлі адыгралі не такую малую ролю. Возьмем, напрыклад, Відава (яно знаходзіцца ў кіламетры на ўсход ад Бельска).

Знаўца гісторыі назваў мясцовасцей Беласточчыны др Міхал Кандрацюк бачыць у слове „Відава“ частку аднаго са старажытных славянскіх уласных імёнаў Малавід, Мілавід, Снавід, Завід, Відава або літоўскае імя Віда. І такім чынам намякае на вельмі старадаўні радавод гэтай мясцовасці, далёка раней першага пісьмовага ўпамінання пад 1501 годам пра „поле Відоўшчына“. І не будзе вялікай памылкай, калі прымеркаваць узнікненне тут паселішча не на многа пазней часу паўстання Бельска, гэта значыць IX-X стагоддзяў. Колішнія крэпасці не любілі адзіноцтва, у спрыяльных умовах яны хутка і густа абрасталі рамесніцкімі пасадамі, сёламі, якія забяспечвалі крэпасць ва ўсё неабходнае для яе існавання і абароннай моцы. Аж да апошняй чвэрці XIII стагоддзя пераважалі прыхільныя ўмовы для развіцця ў Бельску гандлю і рамяства, а вакол яго сялянскіх паселішчаў. Толькі наступнае стагоддзе прынесла сюды напады літоўцаў, нашэсці крыжакаў, кровапралітныя польска-літоўскія войны. Яны, праўда, цалкам не знішчылі тутэйшага насельніцтва, але значна зменшылі яго колькасць.

Аднак трэба мець на ўвазе і тое, што калі 9 студзеня 1430 года вялікі князь літоўскі Вітаўт прызнаваў Бельску гарадскія правы — напэўна не даваў іх пустцы, але жывому, пругкаму гаспадарчаму арганізму, які быў вядучым асяродкам на Падляшшы. Вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык 15 жніўня 1499 г., пацвярджаючы ўсе ранейшыя прывілеі Бельска і даючы яму

(Працяг на стар. 4)






# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА XIX**

Большасць грамадскіх вершаў Купалы ўтрымана ў песімістычным тоне. Выступае ў іх бязвер'е не толькі ў адносінах да пануючага актуальна ладу, але і ў адносінах да будучыні. Характэрны ў гэтым сэнсе верш „Рвуцца сілы...“.

Рвуцца к бітвам з непагодай,
З няволяй, з нядоляй,
Туды рвуцца, дзе заўсёды
Слёз і гора многа.

...Эх, дарэмна гэтак рвешся
З маладой душою!
Аб няпраўду разаб'ешся
З сваёй барацьбою.

І так зробішся, як кожны, —
Будзеш спаці ў ковах,
Будзеш дужы і адважны,
Дый толькі у словах!

У прыведзеным вершы Купала як бы аспрэчвае сэнс усякай грамадскай і палітычнай актыўнасці, не верачы ў яе практычныя вынікі. Аднак на прыкладзе аднаго верша нельга рабіць вывадаў адносна цэлай творчасці паэта. Хутчэй ідэі, выступаючыя ў творы, трэба патрактаваць як настрой хвіліны, а не жыццёвую філасофію аўтара, хаця і ў многіх іншых вершах Купалы знойдзем праявы безнадзеі. У многіх вершах паэта, утрыманых у песімістычным тоне, у фінальных строфах выступаюць матывы надзеі. Праяўляюцца яны ў закліках, пытаннях, пажаданнях. Прыкладам можа быць верш „З песень нядолі“. Увесь верш утрыманы ў сумнай, а нават драматычнай танацыі, аднак у апошняй страфе выступае абнадзейваючы матыў.

Можа ўзойдзе доля
Ясненькай зарой,
Можа бліcне сонцам
Воля нада мной!

Элемент пажадання лепшага жыцця, лепшай долі, дасканальшай будучыні ў вершах Купалы вельмі часты. Аднак яго з'яўленне не заўсёды падрыхтавана дыялектыкай учынкаў героя або духоўнай эвалюцыяй. Часта сцвярджэнне аб лепшай будучыні ў вершах паэта як бы нечаканае і недастаткова матываванае. Часта, але не заўсёды. У вершах паслядоўна аптымістычных, аб якіх яшчэ будзем гаварыць, вера ў будучыню абгрунтаваная, верагодная і пераканаўчая. Амаль заўсёды вынікае яна з акрэсленай праграмы дзеяння.

У грамадскіх вершах Купала вельмі часта вяртаецца да Багушэвічаўскага разумення сялянскай праблемы. Багушэвіч, як вядома, абураўся з тае прычыны, што селянін, сапраўдны стваральнік шматлікіх матэрыяльных каштоўнасцей, пазбаўлены магчымасці карыстацца з вынікаў сваёй працы. Супраць гэтага выступае таксама Купала. У вершы „Я мужык — беларус“ піша:

З цяжкай працы маёй
Карыстаюць усе,
Толькі мне за яе
Няма дзякуй нідзе.

У многіх вершах сялянскую крыўду Купала разглядае ў аспекце непасрэдных адносін паміж найболей супрацьстаўнымі класамі старога грамадства — абшарніцтвам і сялянствам. І тут ідэйная пазіцыя аўтара абсалютна адназначная. Паэт заўсёды прадстаўляе пана як эксплуататара, чалавека амаральнага, прапускаючага грошы, выціснутыя з сялянскай працы, на гульнях і забавах у краіне або за граніцай. Купала ва ўсім атоесамліваецца з сялянскім жыццём, з сялянскімі патрэбамі, прэтэнзіямі і марамі. Не верыць ён у эвалюцыю панскай маралі, у паляпшэнне панскага характару, у панскую дабрату.

Лае пан багаты,
А ты цярпець мусіш,
Хоць не вінаваты,
Языка прыкусіш.
Горш якой скаціны
Спаганяць, зняславяць,
Кляцьбой без прычыны
Спаткаюць, адправяць.

Так гаворыць Купала ў вершы „Ад рана да рана“. Верш гэты характэрны тым, што звяртае ўвагу не толькі на эканамічны, але і на маральны прыгнёт селяніна з боку пана. Купалаўскі селянін, апынуўшыся перад абліччам пана, мае права-абавязак маўчаць, незалежна ад таго, якія кпіны, абразы і пагарды зваляцца на яго галаву. Зразумела, што такое становішча выклікае заўсёды асуджэнне з боку паэта. І нават тады, калі яно не выказана ў непасрэднай пуэнце, то яго прысутнасць праяўляецца ва ўсіх падтэкстах.




Stryjkowski Maciej, **O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego...”**, PiW, Warszawa, s. 763, cena 170 zł.

Амаль 400 год таму была надрукавана „Kronika polska, litewska, żmodzka i wszystkiej Rusi“ Стрыйкоўскага. Яна выклікала вялікае зацікаўленне, і з яе на працягу шэрагу стагоддзяў чэрпалі матэрыял гісторыкі і пісьменнікі. За пяць год да выхаду „Кронікі“ Стрыйкоўскі напісаў „Пра пачаткі, паходжанне, подзвігі, воінскія і хатнія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага...“ — твор, на які не звярнулі асаблівай увагі наступныя пакаленні. Напісаны вершам і прозай, ён быў не толькі новым падыходам да мінулага Літвы, Жамойціі і Русі, абапіраўся ў значнай ступені на рускіх летапісах, але таксама значна адрозніваўся ад надрукаванай пазней „Кронікі“.

Hertel Jacek, **Imiennictwo dynastii piastowskiej we wczesnym średniowieczu.** Roczniki Towarzystwa Naukowego w Toruniu. Nr 79, zeszyt 2. PWN, Warszawa--Poznań-Toruń 1980, s. 185, cena 68 zł.

Праблемы, якія закранае гэтая работа, знаходзяцца на сумежжы некалькіх навук і перш за ўсё анамастыкі, гісторыі культуры, палітычнай гісторыі, гісторыі царквы і, хоць у меншай меры, сацыялогіі і этнаграфіі. Фактаграфічны матэрыял пададзены так, каб прадставіць не толькі дынастыю Пястаў і ўваходзячыя з імі ў сямейныя сувязі іншыя еўрапейскія дынастыі, але таксама ён ахапіў сваім абсягам усю тэрыторыю Польшчы, усе яе ўдзелы ў эпоху сярэднявечча (IX-XV ст.ст.)

Самбук С. М., **Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века**, АН БССР, Мінск 1980, стар. 223.

Асаблівасці палітыкі царызму ў Беларусі былі абумоўлены нацыянальнай і сацыяльнай неаднароднасцю мясцовага пануючага класа. Недавер да польскага дваранства і жаданне забяспечыць інтарэсы рускіх памешчыкаў выклікалі імкненне царызму зменшыць ролю і ўздзеянне польскага дваранства на палітычнае жыццё краіны.

**Р.С.**

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ВЕЧАРЫ

У лістападзе г.г. у Бельскім доме культуры адбыліся дзве аўтарскія сустрэчы. Прыехалі да нас Сакрат Яновіч (18 лістапада) і Віктар Швед (28 лістапада). Выступленні нашых аўтараў выклікалі вялікае зацікаўленне сярод прысутных бяльчан.

У час сустрэчы з С. Яновічам ішла гутарка пра мастацкі пераклад, пра яго пісьменніцкую майстэрню. Цікава!

А Віктар Швед прадставіў маладым слухачам свой творчы шлях і прачытаў вершы апублікаваныя і новыя — са зборніка „Вяртанні“. Пазнавальны і прыгожы ўрок роднай літаратуры.

Да наступных сустрэч, дарагія аўтары!

**Надзея Артымовіч**

## У іх найбольш „Нівы”

*Найбольш падпісак на „Ніву“ ў бягучым годзе маюць наступныя пісьманосцы: 1) Мікалай Панфілюк з Дубіч Царкоўных (у яго сярэдняя гадавая 184 падпіскі), 2) Уладзімір Гуралеўскі з Рыбалаў (165), 3) Уладзімір Васільчык з Нараўкі (121), 4) Уладзімір Весялоўскі з Пасынак (119), 5) Аляксандр Белабродскі з Арэшкава (79), 6) Мікалай Асіпюк з Клейнікаў (77), 7) Мікалай Лясота з Нараўкі (76), 8) Канстанцін Каліноўскі са Старога Ляўкова (73), 9) Аляксей Давідзюк з Ласінкі (72) і 10) Васіль Бількевіч з Чыжоў (66).*

*У нашым авангардзе знаходзяцца яшчэ: Андрэй Шэшка з Клейнікаў (у яго ў сярэднім 66 падпісак), Мікалай Лапух з Орлі (65), Міхал Панфілюк з Нараўкі (60), Анна Грэчан з Дубін (58), Станіслаў Капела з Храбалоў (58), Мікалай Бобка з Крушынян (56) і Сяргей Казлоўскі з Храбалоў (52).*

**(яц)**



# КАРАВАЙНІЦА

Перадвясельная субота ў доме маладой, што ў вуліі ў сонечны ліпнёвы дзянёк. Дзверы не зачыняюцца. Дзень горбіцца перад ноччу. Вечарэе. Скрыпнулі дзверы — і ў хату адна за адной праходзяць вясковыя бабы і маладзіцы. Каравайніцы прыйшлі. Хросная маці — старшая каравайніца, запеpазаўшы фартух, з вялікай павагай і сур'ёзнасцю прынялася расчыняць цеста. Яе падтрымалі дружнай песняй астатнія каравайніцы. У вачах маладой закруціліся слёзы, што належала, зрэшты, да добрых звычаяў. Расчына гатовая. Вясельны бацька запрашае да стала. Пачастунак.

— Хіба ўспомніш, калі гэта спякла першы каравай. Як выйшла замуж, як пайшла з каравайніцамі, то так і ўвесь час. Маеце, о, ужо гады трыццаць чатыры недзе. Ну, кажу, столькі, колькі замужняя, — гаворыць Анна Стоцкая.

Можна сказаць, што яна мясцовая, лучанка, хаця, праўда, нарадзілася ў суседнім Тарнопалі. Аднак у 1927 годзе, малой Ані было тады ўсяго год, бацькі пераехалі ў Луку. Жыло тут двое бяздзетных старых, і бацька прыйшоў іх дагадаваць. Зусім чужых. І так засталіся.

— Тут выйшла замуж, о за гэтага, — паказвае ласкавай усмешкай у бок мужа Сяргея, — і так жывем.

Цеста вырасла. Час гібаць каравай. Рабілі заўсёды вялікі, каб не толькі вясельным, але і запарожніцам хапіла. Кілаграмаў пяць расчынялі. Была гэта цэлая працэдура, цэлы працэс. Асабліва пры ўпрыгожванні. Кожная частка, кожны камячок цеста меў сваё значэнне.

— На сярэдзіне заўсёды рабілі крыж. Вось так проста, рукою па няспечаным яшчэ цесце, — расказвае А. Стоцкая. — Быў ён сімвалам хрысціянскай веры, набожнасці. Зробленая з цеста на караваі курыца на яйках абазначала сям'ю, каб была яна згоднай і трымалася свайго гнязда, бочка была сімвалам дабрабыту, адным словам, каб жыццё плыло віном. Хлопчык і дзяўчынка абазначалі пару будучых малых, дваяны — што сабралася пара, траяны — сабралася пара і каб быў прыбытак. З астаўшагася цеста рабілі булачкі, так званую гуску.

У Луцэ гэта традыцыя па сённяшні дзень.

— Ой! Ужо далёка за сто я іх напякла, пэўна, што далёка.

Анне Стоцкай пяцьдзесят чатыры гады. Двое дзяцей. Сын Іван будуе дамы, дачка Ірына працуе настаўніцай. Абое ў Беластоку. Малодшую Юлію пахавалі. Добрай была вучаніцай і нешта напала на вочы. Аслепла. Потым розныя хваробы. Памерла.

— Пакуль каравай у печы, каравайніц частуюць. Часам бабаў дваццаць збярэцца, — гаворыць.

Спёкся. Прыкрыўшы яго чырвоным палатном, якое абазначае вернасць, выносяць рытуальна ў камору. Калі малады будзе забіраць да сябе маладую, распачнецца за яго торг паміж каравайніцай і старшым сватам.

— У маладога каравай пяклі ў нядзелю, калі той выязджаў да шлюбу, — гаворыць А. Стоцкая.

Недзе гадоў дваццаць таму назад Анна Стоцкая завезла свой каравай у Беласток у музей на выстаўку. Слава аб умельстве яе рук разыйшлася па цэлай Беласточчыне і не толькі. Першае месца на выстаўцы караваяў у Варшаве. Потым выстаўка ў Лодзі, Любліне. Апошні конкурс у Беластоку на найпрыгажэйшы каравай Беласточчыны адбыўся гады два таму назад. І зноў прынёс ён Анне Стоцкай першае месца.

Апрача гэтага А. Стоцкая займаецца народным ткацтвам. Кілімы, дываны, плахты з народным узорам. Свайго часу заняла яна чацвёртае месца ў Беластоку на конкурсе ткацтва.

— Калісьці ткала многа. Ткала і простыя, і ў пераборы. Пераважна людзям. Але цяпер не магу. Во як пальцы павыкручвала. Другая група інваліднасці.

Стоцкая цяпер на пенсіі. Яна адзінаццаць гадоў працавала прыбіральшчыцай у школе, а муж здаў зямлю. Неўзабаве знясуць з картаў вёску Луку. Застанецца па ёй толькі ўспамін. І адным з успамінаў будуць караваі Анны Стоцкай — умельства яе рук, дзякуючы якім прынялі яе ў гэтым годзе ў члены Аб'яднання народных творцаў. Дар мастацтва пераняў ад яе сын Іван, які цікавіцца інтарсіяй.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, цікава, ці змог бы ты адказаць на мой сон? Мне менавіта снілася, што я была ў маладым зялёным лясочку і ўбачыла там, што стаяць тры сарэнкі. Былі цудоўна прыгожыя. Праз нейкі час я пачала кідаць у іх каменнямі. Яны не ўцякалі, хаця вельмі перапужаліся. Я не забіла ніводнай сарэнкі, але пасля ўзяла адну і выкруціла ёй галаву. Я падумала, што будзе вельмі прыгожая скурка. Ну, і тады тую сарэнку я палажыла ў гэтым зялёным лясочку, а каля маёй сарэнкі ляжала другая, цямнейшая. Хтосьці яе сюды таксама палажыў. Каля тых сарэнак я ўбачыла вялікую горбу скур (ад сарэнак). Я вельмі баялася, каб ніхто мяне не ўбачыў і не зрабіў мне чагось дрэннага. Ну, бо падумайце самі: як жа можна забіць сарэнку? Самавольна? За гэта ж будзе вялікая кара...

Дарагі Астроне, я вельмі перажыла гэты сон. Я цяпер стараюся знайсці працу. Ці не звязаны гэты сон з маімі стараннямі?

Вера з Бельскай гміны

**Вера!** Ты была пры добрай надзеі, бо прыснілася табе, што была ты ў зялёным ляску, дзе было вельмі прыгожа. І сарэнкі тыя былі прыгожыя, але як жа можна біць жывёлу? Ты ж кідала ў іх, даверлівых і бездапаможных, каменнямі і ўрэшце адкруціла адной сарэнцы галаву. Ты глядзі, бо чакае цябе нейкая ўтрата і смутак. Можа будуць гэта клопаты з працай, або нават хвароба. Ясна, што нехта будзе сумаваць разам з табою, бо таксама забіваў сарэнак.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Хадзіла я з Юркам, калі вучылася ў сярэдняй школе. Ён цяпер у арміі. Мы перапісваемся, прыязджае, як толькі зможа вырвацца. Я кахала Юрку і ніколі не падумала, што можа мне спадабацца іншы. Але я стала на работу, і... закахалася. Праўда, я спачатку нічога не думала, у маім сэрцы быў толькі Юрка. Але Генік зацікавіўся мною ад першых дзён, як толькі я прыйшла на прадпрыемства. Супрацоўніцы гаварылі мне, што ён за кожнай новай дзяўчынай ганяецца, а сам жанаты і дзіцё мае. Я, чуючы гэта, старалася пазбягаць яго. Але дарма, ён хадзіў за мной услед. І бачыш, Сэрцайка, спадабаўся. Ён прыгожы, прыстойны, жартаўлівы, вясёлы. І штораз больш мне падабаецца. Я ўжо і Юркавых пісем так не чакаю, як калісьці, ды не лічу дзён, калі ён з войска вернецца. Наадварот, мне нейк страшна, што ўжо хутка, на весну, канец яго службы. А мы дагаварыліся, што як толькі ён вернецца, дык пажэнімся. Мае бацькі ўжо рыхтуюцца памалу да вяселля, парсючка падкормліваюць. Нічога не ведаюць, што я ўжо іншага кахаю. Генік кажа, што мяне вельмі кахае. Я пра гэта бацькам баюся сказаць, бо яшчэ з хаты выганяць. Юрка ім вельмі падабаецца. І яшчэ, калі б я выйшла за Юрку, то мусіла б пакінуць работу і выехаць з ім у іншы горад, дзе жывуць яго бацькі і дзе чакае яго работа. Во бяда. Што рабіць, парай, Сэрцайка!

Ірэна з Бельшчыны

**Ірэна!** Замарочыў табе галаву ненадзейны, неадказны чалавек. Жанаты і дзіцяты. А тыя прыгожыя слоўцы паўтараюць усе „падрывачы“, каб толькі дзяўчыну ачараваць. Геніку, бач, удалося. Але, думаю, пройдзе гэта табе. Глянь рассудачна на справу. Не ўмешвайся ў сям'ю і не разбівай яе. Ды не руйнуй сваіх планаў з Юркам, які цябе сапраўды кахае. А тое, што ты будзеш вымушана пакінуць гэтую работу і выехаць у другі горад, выйдзе толькі табе на карысць. Не будзеш бачыць на штодзень Геніка і гэта паможа табе забыць яго канчаткова.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Бацька хоча запісаць завяшчаннем усю сваю зямлю сыну, які мае сваю гаспадарку з будынкамі. Каб не пакрыўдзіць дачку, якая жыве ў горадзе, ён хацеў бы штось пакінуць ёй. Ці можа ён запісаць ёй дом з прысялібным участкам?

АДКАЗ: Запіс завяшчаннем сельскай гаспадаркі або яе часткі магчымы толькі на карысць асобы, якая мае кваліфікацыі для наследавання сельскай гаспадаркі. Гэткімі з'яўляюцца дзеці завяшчальніка, якія непасрэдна перад смерцю бацькі працавалі на гэтай гаспадарцы, або кіравалі іншай гаспадаркай, ці належалі да сельскага вытворчага кааператыва. Наследуюць таксама непаўналетнія дзеці або якія вучацца ў школе, а таксама трывала няздольныя да працы. Немагчымы таксама запіс, які б парушаў закон аб абмежаванні падзелу гаспадарак. Прысялібны ўчастак з'яўляецца часткай сельскай гаспадаркі, і распараджэнне ім з'яўлялася б падзелам гаспадаркі. Таму, калі б бацька запісаў дачцы ў завяшчанні прысялібны ўчастак, то пасля смерці бацькі суд пасведчыў бы, што адзіным наследнікам, які мае права на гаспадарку, з'яўляецца сын. Калі бацька хоча, каб і дачка штось атрымала са спадчыны, можа ў завяшчанні ўстанавіць на яе карысць грашовы запіс. На аснове гэткага запісу дачка не будзе лічыцца наследніцай, але будзе мець права патрабаваць заплаты запісанай ёй сумы грошай. Закон робіць тут адну агаворку, што гэткі запіс можна патрабаваць на працягу пяці год ад смерці завяшчальніка.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЯМЕЙНАЯ




*Ой, у полі крынічэнька —*
*відно дно, відно дно.*
*Нідзе ж маго п'янічэнькі*
*не відно, не відно.*
*Ой, пайду я дарогаю*
*бегучы, бегучы.*
*Чы не ўгледжу п'янічэнькі*
*ідучы, ідучы.*
*А мой горкі п'янічэнька*
*з карчмы йдзе, з карчмы йдзе.*

*Набок сваю галаваньку*
*ён нясе, ён нясе.*
*— А што ж ты, мая мілая,*
*думала, думала,*
*як на гэту гібку кладку*
*ступала, ступала?*
*— Я думала, мой міленькі,*
*утануць, утануць,*
*каб з табою, мой міленькі,*
*больш не жыць, больш не*
*жыць.*

Ад Ольгі Кандрусік, 1912 г. нараджэння, мястэчка Гарадок, запісаў 14 лістапада 1980 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.

## Куток практычных ведаў




### НА КАРНАВАЛ

Ці так, ці сяк, а карнавал на носе. На жаль, сёлетняя мода не прыносіць ніякіх рэвеляцыйных навін на гэтую аказію. Можа лепш было б сказаць, што мода ў нейкай ступені вяртаецца да старых традыцый. Гляньце на наш здымак: карункі, атлас, а да таго ж модныя яшчэ розныя вязаныя рэчы (асабліва з залатых нітак), шыфон, так званыя „льючыеся“ матэрыялы.

У святле гэтых фактаў штосьці новае спраўляць вельмі лёгка. Дастатковa паграбсціся ў адстаўленым на бок куфры, дзе ляжаць рэчы з матулінай, а мо і бабульчынай маладосці, а ўсё нешта знойдзецца. Мая дачка, напрыклад, выцягнула мае штаны з залатой парчы, звузіла іх, а да таго зрабіла цікавую блузку, ад маёй старой вязанай блузкі чорнага колеру абрэзала рукавы і карчык, а замест іх зрабіла тоненькія шлеечкі, знізу ж дарабіла фрэндзлікі.

Якія колеры? Найбольш, кажу, залатога і чорнага, але таксама мноства сукенак бардовага, фіялетавага, сліўкавага, бурачневага, колеру чырвонага віна.

На нашых здымках мадэлі з чорных карунак і такога ж атласу. Хто любіць, можа пад карункавую блузку зрабіць блузачку на шлейках з атласу і такія ж штаны, а хто штаноў не любіць — замест штаноў пашые атласную спадніцу з фальбанай.

**Сяброўка**



(Працяг са стар. 5)

## РАТУНАК АД СМЕРЦІ

ючы з усходу харчаванне, галоўным чынам мяса і масла, у замен за іншыя прадукты, тавары і вырабы.

Камендант Зорге са сваімі камратамі быў частым госцем у надбужных вёсках. Не ганьбаваў ён добрым пачастункам і смачнай закускай. У гандляроў таксама заўсёды было шмат чым пажывіцца, ды яшчэ заставалася, каб адправіць вартасную пасылку сям'і ў фатэрляндзе.

Гэтага ж асенняга дня, недзе ў палавіне кастрычніка 1943 года, таксама ўдалося яму спыніць у Пуцьковічах ужо тры падводы з падазронымі таварамі. І вось чацвертая...

Зорге падскочыў да Расткоўскага, халоднае дула свайго пісталета прыткнуў яму да самага вуха, ускочыў на воз, прысеў побач гаспадара і загадаў ехаць да солтыса, дзе ўжо стаялі іншыя арыштаваныя фурманы і падводы.

— Добра, пане камендант, — адказаў па-нямецку Расткоўскі. — Дазвольце толькі апусціць мне рукі, каб я мог узяць за лейцы.

— Язджай! — коратка загадаў гітлеравец. Гаспадар сцебануў лейцамі па баках сваю шуструю кабылку, яна раптоўна рванула з месца, і ў гэты момант Расткоўскі пачуў, што пісталет гітлераўца саслізнуўся з яго вуха. Хутка азірнуўся. Убачыў, што гітлеравец перахіліўся назад, а яго рука з пісталетам тырчыць у паветры. Рашэнне прыйшло маланкава. Цяпер нават ён не ведае, ці думаў, што робіць. З размахам ударыў кулаком па руцэ немца. Удар папаў між локцем і далоняю. Зорге ойкнуў і міжвольна растапырыў пальцы. Пісталет паляцеў у вулічны пясок. Расткоўскі не чакаў. Ударыў другі раз. Якраз у той момант, калі гітлеравец з крыкам хацеў ухапіцца за рукі селяніна. Трапіў у грудзі. Далажыў другой рукой. Зорге паляцеў з воза. Расткоўскі схапіў лейцы і паімчаўся як віхор. Ведаў тут кожную сцяжынку. Зараз жа павярнуў на балота. Пачуў за сабой страляніну. Кабылка, аднак, праскочыла ўжо праз невялікую рэчку ды імчалася далей.

— І так я тады выратаваўся з рук гітлераўцаў, — кажа Эдвард Расткоўскі. — Выкарысталі гэтае замяшанне таксама і іншыя сяляне, якіх Зорге арыштаваў крыху раней. Калі немцы кінуліся за мною, яны таксама выскачылі ад солтыса, дзе іх трымалі, і параз'язджаліся ў розных напрамках, куды хто змог. Аб гэтым даведаўся я ўжо пазней. На шчасце, солтыс з Пуцьковічаў не ведаў, што гэта я тут натварыў такой кашы, і таму не накіраваў немцаў да мяне на хутар. Думаў, што гэта таксама хтосьці з выпадковых гандляроў.

Зорге са злосці натрапаў па мордзе солтыса, пабегаў крыху па вёсцы, знутуючыся над кожным, хто папаў яму пад рукі, дайшоў нават і туды, дзе жыла Кацярына Сініцына... І невядома, чым бы гэта ўсё закончылася, як супакоіў бы сваю злосць раз'юшаны гітлеравец, калі б у вёску не прыімчаўся сувязны з заставы з паведамленнем, што каменданта неадкладна выклікае вышэйшае камандаванне, каб ён далажыў, што дзеецца тут на граніцы.

Эдвард Расткоўскі тым часам даімчаўся на свой хутар, кінуў лейцы брату, а сам ускочыў дахаты, адкрыў тайнік са зброяй, дастаў пісталет і пабег у загадзя вызначанае месца, дзе ў выпадку якой-колеч трывогі збіраўся яго атрад Арміі Краёвай.

— Хлопцы ўжо чакалі, — успамінае Эдвард Расткоўскі. — Расказаў я ім, што здарылася, і мы супольна рашылі паназіраць за ходам падзей яшчэ да вечара...

Так прайшла акупацыя. Кацярына Сініцына перасялілася на хутар да Расткоўскіх. Жыла тут на правах батрачкі. Праўда, сабе і дзецям мела ўсё неабходнае, але працаваць даводзілася вельмі цяжка. Толькі адзін Эдвард адносіўся да яе спагадліва, ласкава. І шчыра дапамагаў у бядзе. Між імі ўсё больш і больш замацоўваліся дружалюбныя адносіны. Недзе ў пачатку мая 1945 года, ужо пасля вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў, Каця зацяжарыла. Выявіла гэта бацьку свайго не народжанага яшчэ дзіцяці. Эдвард Расткоўскі рашыў тады, што ажэніцца з Кацярынай. Сям'я запратэставала. Бацькі заявілі, што на парог не дапусцяць такую нявестку, нягледзячы нават на тое, што Кацярына згадзілася прыняць каталіцкае веравызнанне і ў касцёле зарэгістравала сваіх дочак. Тады Мая стала Марыяй, а Рая — Рэгінай. Эдвард аднак цвёрда трымаўся свайго рашэння. Наперакор бацькам, 29 чэрвеня 1945 года адбыўся іх скромны шлюб, а 22 лютага 1946 года нарадзілася першае, ужо іх супольнае, дзіця — трэцяя дачка Кацярыны. Ахрысцілі яе Галінай.

Бацькі Эдварда Расткоўскага таксама цвёрда трымаліся свайго і сапраўды не пусцілі пад уласны дах жонкі свайго сына. А да гэтага далучыліся яшчэ іншыя клопаты. Аб гэтым аднак наступным разам.

**Віктар Рудчык**

